*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№25 травень 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

**Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь**

## З паведамлення пракуратуры Магілёўскай вобласці 30 красавіка стала вядома пра вынясенне ў Беларусі чарговага смяротнага прысуду.




***Выступаючы за смяротнае пакаранне, памятайце, што ў краіне, дзе адсутнічае грамадскі кантроль за дзейнасцю праваахоўных органаў, дзе адсутнічае інстытут незалежнай адвакатуры, а судовая сістэма скрайне залежная ад органаў выканаўчай улады, на месцы прыгаворанага да смерці можа апынуцца кожны з нас. Падумайце пра гэта!***

## Беларусь заклікаюць спыніць сьмерць

Міжнародная Амністыя (Amnesty International) разаслала тэрміновы прэсавы рэліз з заклікам да ўладаў Беларусі спыніць выкананьне сьмяротнага прысуду і ўвесьці мараторый на сьмерць.

Нагодай для заклiку стала паведамленьне ад 30 красавіка пракуратуры Магілёўскай вобласьці, дзе быў вынесены чарговы сьмяротны прысуд.

«Судовай калегіяй па крымінальных справах Магілёўскага абласнога суду асуджаныя двое грамадзян за ўчыненьне забойства групай асобаў. Мужчыны былі асуджаныя за забойства сукамэрніка – абодва яны адбывалі турэмныя тэрміны за ранейшыя злачынствы. У якасьці меры пакараньня аднаму зь іх суд прызначыў па сукупнасьці прысудаў за раней зробленыя злачынствы выключную меру пакараньня – сьмяротнае пакараньне, другому – 16 гадоў пазбаўленьня волі».

У пракуратуры адзначылі, што асуджаны на сьмяротнае пакараньне – «вельмі адмоўная асоба, якая ўяўляе вялікую грамадзкую небясьпеку». Забіты сукамэрнік – чацьвёртая яго ахвяра. Астатнія злачынствы, якія ён зрабіў раней, таксама належаць да катэгорыі цяжкіх і асабліва цяжкіх.

Таксама Міжнародная Амністыя выказала глыбокую заклапочанасьць з нагоды таямнічасьці, якой ахутанае сьмяротнае пакараньне ў Беларусі. У заяве гаворыцца, што да зьняволеных могуць ужывацца катаваньні.

«Статус Беларусі, як адзінай краіны ў Эўропе, дзе выконваюцца сьмяротныя пакараньні, ганебны. Улады павінны неадкладна адмяніць гэты сьмяротны прысуд і ўвесьці афіцыйны мараторый на сьмяротнае пакараньне», сказаў Давід Дыяс-Жоге, намесьнік дырэктара Amnesty International па краінах Эўропы і Цэнтральнай Азіі.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Эўропе, дзе да гэтага часу выносяцца і выконваюцца сьмяротныя прысуды. За гэта краіну ўвесь час крытыкуюць міжнародныя арганізацыі, якія змагаюцца за скасаваньне сьмяротнага пакараньня. У 2012 годзе ў Беларусі былі пакараныя сьмерцю Дзьмітры Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў, асуджаныя за ўчыненьне тэракту ў менскім мэтро 11 красавіка 2011 году. Паводле зьвестак арганізацыі Amnesty International, у Беларусі летась акрамя гэтых двух быў выкананы яшчэ адзін сьмяротны прысуд.

## Алеся Бяляцкага на паўгода пазбавілі прадуктовых перадач

16 траўня жонка палітвязьня Натальля Пінчук наведала бабруйскую калёнію, дзе трымаюць яе мужа. Яна мела намер перадаць Алесю Бяляцкаму рэчавую перадачу і даведалася, што у сакавіку да жніўня яго пазбавілі права на харчовыя перадачы.

«За якое парушэньне яго пакаралі, мне невядома, ды я і не цікавілася. Гэта рытарычнае пытаньне — за што? Прычыну знойдуць».

Паводле Натальлі Пінчук, Алесь Бяляцкі тэлефанаваў дамоў у пачатку траўня. У лістах, якія ад яго даходзяць, ён звычайна ні на што не скардзіцца.

Натальля Пінчук перадала мужу ў калёнію спартовы строй, пасьцельную бялізну ды іншыя рэчы. Гэта была адзіная дазволеная вязьню ў год рэчавая перадача.



Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года зьняволеньня за "ўтойваньне прыбыткаў з-за мяжы". Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і казаў у судзе пра грошы, якія ішлі на дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсій ў Беларусі.

## Front Line Defenders выступае супраць парушэння ўмоваў зняволення Алеся Бяляцкага

*20 траўня праваабарончая арганізацыя Front Line Defenders распаўсюдзіла заяву з нагоды новых выпадкаў выкарыстання дысцыплінарных захадаў з боку адміністрацыі калоніі ў дачыненні да палітвязня Алеся Бяляцкага.*

Front Line Defenders публікаваў заклікі і абнаўленні па гэтай справе, у апошні раз 26 лістапада 2012 года. Front Line Defenders лічыць, што няспынныя вымовы Алесю Бяляцкаму з'яўляюцца парушэннем рэжыму зняволення і ў цяперашні час выкарыстоўваюцца ў якасці інструмента, каб пагоршыць умовы ўтрымання пад вартай і не дапусціць яго датэрміновага вызвалення.

# Сын камбатанцкага палка

*(да 50-ых угодкаў з дня нараджэння Зміцера Кісяля)*

***24 траўня мы маглі б адсвяткаваць юбілейны дзень нараджэння нашага сябра і аднадумца Зміцера Кісяля, аднак адно, што мы можам зрабіць – гэта пайсці на гарадзенскія могілкі, што на праспекце Касманаўтаў, каб запаліць на месцы ягонага пахавання знічы ды ўскласці кветкі. Зміцер Кісель раптоўна памёр 30 верасня 2005 году і цяжка паверыць, што з таго трагічнага дня прайшло ўжо амаль 8 гадоў.***



Нарадзіўся ён у Гародні ў сям'і беларускіх патрыётаў, якія сур'ёзна пацярпелі ў час сталінскага генацыду, яго бацькі былі вязьнямі савецкіх канцлагераў. Дзіма з дзяцінства атрымаў адпаведнае беларускае выхаванне. У дзяцей ведамых беларускіх дзеячаў з ідэалагічнай спадкаемнасцю не так проста. Многія з іх настолькі далёкія да беларускіх спраў, што нават ня толькі бацькам сорамна. Зміцер у гэтым сэнсе цалком спраўдзіў спадзевы сама блізкіх людзей. ¨н вельмі любіў сваіх бацькоў, хоць з іншага боку іх гераічнае мінулае накладала на яго пэўны комплекс сваёй меншай вартасці. Дзіму вельмі любілі таксама сябры яго бацькоў – вязьні савецкіх канлягероў. ¨н быў гэткім сынам "гулагаўскага" камбатанцкага палку. Пра яго з вялікай цеплынёй гаварылі многія беларускія ветэраны.

Кісель у школьныя гады займаўся спортам, потым вучыўся і скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы. Зміцер Кісель быў у ліку таго дзесятку людзей, што пачыналі ў Гародні ў сярэдзіне 1980-ых адраджэнне беларушчыны. І гэта факт, як кажуць, гістарычны. Можна прыгадаць яго чынны ўдзел у выпуску легендарнай газеты "Рэанімова", заснаванні ў Гародні Беларускага Народнага Фронту, адраджэнні Грамады, журналісцкую працу ў "Пагоні" і беластоцкай "Ніве", удзел у выбарчых кампаніях, шматлікія палітычныя акцыі і грамадскія справы, у ліку якіх найперш аднаўленне магілы Віктара Каліноўскага ў Свіслачы, вяртанне памяці пра Ларысу Геніюш. Пры тым сам Зміцер рэдка выходзіў на першы план. А яшчэ Кісель адным з першых наладжваў сяброўскія стасункі паміж беларусамі Беласточчыны і сумежнай Гарадзеншчыны.

Усе заваёвы беларускага руху трымаліся і трымаюцца на летуценніках і рамантыках. Такія людзі аддаюць без шкадавання ўсе сілы нацыянальнаму Адраджэнню! Яны папросту ня могуць жыць інакш, ашчаджаць сябе "на заўтра". І многія літаральна "згараюць". Прыблізна так здарылася і са Зміцерам Кісялём. ¨н, нягледзячы на свой асабісты надлом (які быў, на маю думку, найперш вынікам нашай агульнанацыянальнай грамадскай бяды), застаўся верным справе Беларускага Адраджэння, за якое шчыра хварэў душой. Не губляў сваіх поглядаў і пазіцый, сымбалічна, што свой апошні публіцыстычны артыкул пісаў пра бел-чырвона-белы сцяг…

***Уладзімір Хільмановіч***

# Хроніка правапарушэнняў

*((( Гарадзеншчына, красавік - травень )))*

## Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

**8 траўня** суддзя Ленінскага суду Гародні Наталля Козел прызнала Сяргея вінаватым у вырабе друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных і аштрафавала актывіста БХД за распаўсюд улётак на 20 базавых велічыняў.

**28 траўня** ў Ашмянскім раённым судзе прайшоў разгляд грамадзянскай справы па іску грамадскага актывіста з Астравеччыны Мікалая Уласевіча да Ашмянскай рэгіянальнай мытні. Уласевіч патрабаваў вяртання забраных у яго на мытні яшчэ **11 ліпеня 2012** года асабістых рэчаў, сярод якіх былі і друкаваныя матэрыялы. У выніку Ашмянскі суд паводле хадайніцтваў заяўніка іску і прадстаўніка рэгіянальнай мытні пастанавіў на адзін месяц прыпыніць вытворчасць па справе з мэтай збору дадатковых матэрыялаў.

Шчучынская міліцыя склала пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне, якое нібыта здзейсніла пенсінерка Вераніка Себасцьяновіч, сябра незарэгістраванага ўладамі Саюзу палякаў Беларусі. 82-гадовай жанчыне праз пошту быў высланы ліст з копіяй пратакола пра адміністрацыйнае правапарушэнне – правядзенне несанкцыянаванага мітынгу. Себасьцяновіч у траўні была адной з удзельніцаў усталявання памятнага крыжа на хутары ў Рачкаўшчыне, што непадалёк Бакштаў (Шчучынскі раён) у памяць жаўнера Арміі Краёвай Анатоля Радзівоніка, які быў забіты супрацоўнікамі НКВД.

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

У пачатку красавіка пасля 30 гадоў працы ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце прафесар Вячаслаў Швед не прайшоў конкурс на пасаду выкладчыка. З ім таксама не працягнулі кантракт на загадчыка кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму. Ідзе паслядоўная “зачыстка” ўсіх гісторыкаў датычных да напісання кніжкі “Гродназнаўства”.



**2 красавіка** кіраўнік Слонімскай суполкі БХД Іван Бедка атрымаў позву ў мясцовы аддзел унутраных спраў. Яго выклікалі на “прафілактычную гутарку” да маёра міліцыі Худзьо. Нагода – акцыя з запусканьнем у паветра шарыкаў.

Грамадскі актывіст з мястэчка Варняны Мікола Уласевіч падаў заяўку на правядзенне ў Астраўцы пікету да ўгодкаў Чарнобыльскай аварыі. Заяўка была пададзеная ў Астравецкі райвыканкам на 26 красавіка. Пікет не дазволілі.

**19 красавіка** ў Слонімскім РАУС дапытвалі мясцовых актывістаў АГП братоў Сяргея і Андрэя Бялько. Іх выклікалі па позве ў міліцыю за тое, што яны прымалі ўдзел у святкаванні Дня Волі. Іх дапытваў маёр міліцыі Вадзім Шчурскі. Пісаць тлумачэнні за ўдзел у святкаванні сябры АГП адмовіліся.

**26 красавіка** Мікалая Уласевіча, каардынатара ініцыятывы «Астравецкая АЭС – гэта злачынства» папярэдзілі пра адказнасць за правядзенне несанкцыянаванай акцыі. ¨н атрымаў позву ў міліцыю.

**26 красавіка** ў Астраўцы затрымалі незалежных журналістаў: аператара Аляксандра Баразенку і журналістку Анастасію Яўмен. Творчая група спрабавала зрабіць матэрыял з месца будаўніцтва будучай атамнай станцыі. Таксама быў затрыманы старшыня партыі АГП Анатоль Лябедзька.

**26 траўня** журналісту Беларускага Радыё Рацыя з Гародні Віктару Парфёненку пяты раз адмовілі ў акрэдытацыі. Пяты год сябра БАЖ падае паперы на афіцыйную акрэдытацыю – і пяты год атрымлівае адмову з Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

# Алесь Бяляцкі пераабраны віцэ-прэзідэнтам FIDH

***27 траўня ў межах 38-га Кангрэсу Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) беларускі праваабаронца-палітвязень Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт FIDH, пераабраны на сваёй пасадзе.***

***У 2007 годзе ён стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы, у 2010 годзе быў абраны на другі тэрмін.***

***Сёлета за кіраўніка ПЦ “Вясна”, сяброўскай арганізацыі FIDH, свае галасы аддалі 76 з 90 удзельнікаў галасавання. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні праваабарончага цэнтру Валянцін Стэфановіч, які гэтымі днямі браў удзел у працы Кангрэсу ў Стамбуле.***

***Кандыдатуру Алеся Бяляцкага напярэдадні галасавання прадстаўляла Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн.***

“Ад Арменіі да Казахстана, ад Украіны да Кыргызстана, у Грузіі і Расіі ён правёў дзесяткі даследчых місій і візітаў салідарнасці. Назіранне за судовымі працэсамі, дапамога сем'ям зняволеных, расследаванне масавых злачынстваў ... Яго вопыт быў і застаецца найважнейшым складнікам стратэгіі FIDH ў рэгіёне.

Але і за межамі рэгіёну Алесь Бяляцкі актыўна ўдзельнічае ў працы па абмене вопытам і праводзіць паездкі салідарнасці з праваабаронцамі ў Егіпце, на Кубе, у Тунісе. Многія з Вас бачылі яго на справе ў гэтых паездках, і патрапілі ў палон яго чалавечых якасцяў і сілы яго перакананняў.

З 4 жніўня 2011 года Алесь стаў адным з вязняў, правы якіх ён заўсёды абараняў разам са сваімі калегамі…

Ці павінны мы далучыцца да кампаніі па яго ізаляцыі, развязанай беларускім рэжымам, які імкнецца да таго, каб дзейнасць Алеся перапынілася?

Мы павінна паказаць рэжыму Лукашэнкі, што Алесь па-ранейшаму адзін з нас, і зусім хутка ён будзе побач з намі і працягне сваю працу віцэ-прэзідэнта Федэрацыі”, - сказала спн. Белхасэн у сваім выступе. (Поўны тэкст выступу Суэр Белхасэн – у далучаным файле.)



“Ад імя ўсіх нас я падзякаваў сябрам FIDH за ўсебаковую падтрымку Алеся Бяляцкага і выказаў спадзяванне на тое, што ён у хуткім часе далучыцца да сям’і FIDH, каб працягнуць змаганне за справядлівасць ва ўсім свеце”, - распавёў Валянцін Стэфановіч.

На пасадзе Прэзідэнта FIDH Суэр Белхасэн (яна правяла шэсць гадоў на чале арганізацыі) змяніў іранскі адвакат Карым Лахіджы. Спадарыня Белхасэн прызначана Ганаровым Прэзідэнтам FIDH.

"Для мяне - велізарны гонар быць абраным Прэзідэнтам FIDH. Маё першае пасланне звернута да ўсіх праваабаронцаў, якія ва ўсім свеце адвольна ўтрымліваюцца ў зняволенні. Мы будзем няўхільна працягваць патрабаваць іх хутчэйшага і безумоўнага вызвалення. Я думаю, у прыватнасці, пра маіх калег і сяброў Алеся Бяляцкага і Набіла Раджаба, якія пакутуюць у турмах Беларусі і Бахрэйна", - заявіў Карым Лахіджы.

Нагадаем, кожныя тры гады FIDH праводзіць кангрэсы, на якіх сяброўскія арганізацыі разам вызначаюць стратэгіі працы і абіраюць Міжнароднае бюро FIDH. 38-ы Кангрэс FIDH з 23 па 27 траўня праходзіў у Стамбуле. На мерапрыемства, галоўная тэма якога – “Палітычныя пераходныя працэсы і правы чалавека: вопыт і выклікі”, з'ехаліся прадстаўнікі звыш 200 НДА з 130 краінаў. За час працы Кангрэс прыняў 26 рэзалюцый, якія тычацца, у прыватнасці, Малі, Сірыі, Малайзіі, Кубы, Расіі і Турцыі. З нагоды свайго 38-га Кангрэса FIDH павялічыла свой склад з 164 да 178 арганізацый.

# Эўразбочанне

***Як гэта ганарова, калі ты прадстаўляеш сваю Краіну. Цэлую Краіну. Не асобна ўзятую школу або працоўны калектыў. Не калгас і не дзяржаўную ўстанову. Не вёску, не горад, не раён і нават не вобласць. А цэлую Краіну. Сваю. Родную.***

***А за табой стаіць твая Дзяржава і твой Народ. З тваімі бацькамі і дзецьмі, з роднымі, з роднымі родных, з суседзямі і з суседзямі суседзяў. З сябрамі, знаёмымі і незнаёмымі людзьмі, але кожны з якіх перажывае за цябе, верыць у цябе, ганарыцца табой…***

Што можа быць важней?! Што можа быць больш ганарова?!

Кожны з нас ганарыцца сваімі. У школе кажуць вучням, што гэтая школа ганарыцца тым, што ў ёй вучыўся нейкі славуты дзеяч. У канкрэтным палку ганарацца героямі, якія значыліся ў яго шэрагах. Тое самае адбываецца і ў маленькай вёсачцы і ў шматлюдным абласным цэнтры, і мітуслівай сталіцы.

Кожны школьнік неверагодна востра адчувае адказнасць перад сваім класам, калі прадстаўляе яго на нейкай алімпіядзе па біялогіі ці спартыўных спаборніцтвах. Ну а калі чалавек прадстаўляе цэлую Краіну…

На “Еўрабачанні” нашу Краіну прадстаўляла даволі вядомая спявачка. Яе кар’ера з большага склалася, талентам яна не абдзеленая, ды і перспектывы росту таксама мажлівыя. З удачай, зноў жа, някепска. Выпала ж менавіта ёй прадстаўляць Беларусь на “Еўрабачанні”. Хоць і не з першага разу. Мінулым годам быў непрыемны сюжэт з фальсіфікацыяй падліку галасоў у сувязі з паездкай на ўсё тое ж “Еўрабачанне”. Але наш добразычлівы народ даўно на такія дробязі як фальсіфікацыя галасоў ўвагу не звяртае. Галоўнае, каб нейкі вынік быў.

Ну а якога ж выніку людзі чакалі. Можа спадзяваліся на першае месца? Ды не. Ніхто асабліва не чакаў такога выніку, хоць у кожнага нейкая кволая надзея ёсць. Па сапраўднаму і пятага месца ніхто не чакаў. Выйшла ў фінал, ну то ўжо і добра. Галоўнае, каб нашу Краіну прадставіла. Ды каб годна.

Але што такое годна? Што мы ўкладаем у гэтае слова? Можа дарагую ў незлічонай колькасці крышталя сукенку? Ды не, здаецца. Не гэта для беларуса ёсць годнасць. Тым больш, што ёсць краіны багацейшыя і могуць адзець сваіх выканаўцаў яшчэ з большым вычварэнствам. А можа той турэцка-лацінаамерыканскі матыўчык песні быў нашай годнасцю? Зноў не. Бо і туркі, і лацінаамерыканцы могуць гэта зрабіць як мінімум не горш. А заадно падкрэсліць гэтым веліч і самабытнасць і сваёй музычнай культуры, і сваёй Краіны, і свайго Народу. Дык што ж там было нашага? Што было такога, каб гледачы без аб’явы дыктара здагадаліся што гэта была спявачка з Беларусі? Што яна прадстаўляе нашу Краіну? Што яна прадстаўляе нас?




Думаю, эстонцы ганарацца сваімі выканаўцамі. Ганарацца тым, што эстонскую мову пачуў увесь свет. А п’едэстальнае месца, гэта справа нажыўная. Не пашкодзіла ж “Буранаўскім бабушкам” удмурдская мова заняць мінулым годам высокае другое месца.

І калі хто думае, што беларусы не ганарыліся б выкананнем на роднай мове, хай хоць раз наведае правядзенне “Беларускай дыктоўкі”, прыкладам, у Гародні. Калі столькі людзей самі ідуць ушанаваць роднае слова што не ўмяшчаюцца ў вялікую залю. Хай хто збярэ добраахвотнікаў напісаць дыктоўку на прапагандуемай уладамі рускай мове. Пад прымусам столькі не збяруць.

Дык ці адчувала наша прадстаўніца хоць нейкую адказнасць за сваю культуру і за свайго гледача. А можа не нас прадстаўляла беларуская дэлегацыя на еўрабачанні. Можа выключна сябе, сваю кар’еру, свае амбіцыі. Бо штосьці не спяшалася наша славутая абранніца і раней радаваць беларускія канцэртныя залі сваімі сольнымі канцэртамі, хоць і не значыцца ў спісах непажаданых ў Беларусі выканаўцаў. Можа больш на Расію арыентавалася. Ну а тая Расія на “Еўрабачанні” ёй аніводнага балу не паставіла. Вось такая іронія. Для кагосьці “Еўрабачанне”, ну а для каго і “Еўразбочанне”. Але верыць будзем у лепшае.

¨сць жа музыкі ў Беларусі якія спяваюць па-беларуску. Хаця б з таго спісу непажаданых для беларускіх арэн выканаўцаў. Можа яны калі-небудзь прадставяць нас на тым славутым “Еўрабачанні”. Тады і пацешымся. І за іх, і за нас, і за Краіну.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на чэрвень 2013 году

**3 чэрвеня**

150 гадоў таму (1863) – Ля вёскі Расолішкі (Ашмянскі пав.) адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам Зыгмунта Мінейкі і расейскім войскам.

**5 чэрвеня**

150 гадоў таму (1863) – За ўдзел у паўстаньні расстраляны Альбэрт Ласковіч, уладаньнік маёнтку Кір'янаўцы (Лідзкі р-н).

**6 чэрвеня**

380 гадоў таму (1633) – Мястэчка Ліпнішкі (Івейскі р-н) атрымала герб.

150 гадоў таму (1863) – У Магілёве расейскімі карнікамі расстраляны (ці 18 чэрв.) Ільдафонс Анцыпа (нар у 1815 (?) у в. Мілавань каля Гародні), публіцыст удзельнік паўстаньняў 1830-31,1863 гг., палявы камандзір. Вучыўся ў Слоніме.



**7 чэрвеня**

450 гадоў таму (1563) – Жыгімонтам ІІ Аўгустам выданы Віленскі прывілей, які параўняў у ВКЛ у правах праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў.

**9 чэрвеня**

285 гадоў таму (1728) – Нарадзіўся Казімер Рагоўскі, езуіцкі тэолаг, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, выкладаў у Наваградку.

**10 чэрвеня**

90 гадоў таму (1923) – Памёр Міхал Федароўскі, фальклярыст, этнограф, археолаг, калекцыянер, які шмат часу працаваў на Гарадзеншчыне.

**11 чэрвеня**

35 гадоў таму (1978) – У Лайле (штат Ілінойс) памёр Янка Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (Канада, Швайцарыя, ЗША), тэолаг. Нараджэнец в. Клешнякі (Шчучынскі р-н).

**13 чэрвеня**

70 гадоў таму (1943) – У в. Васілішкі (Шчучынскі р-н) польскімі партызанамі забіты Юльян Саковіч, дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, актывіст ТБШ і КПЗБ, Беларускай народнай самапомачы.

**14 чэрвеня**

110 гадоў таму (1903) – Памёр Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, фальклярыст, музыказнавец. Жыў у Вішневе (Смургонскі р-н).

**17 чэрвеня**

220 гадоў таму (1793) – У Гародні пачаўся апошні сойм Рэчы Паспалітай. Зацьвердзіў другі падзел Рэчы Паспалітай і прыняў новую канстытуцыю.

165 гадоў таму (1848) – Памёр Максіміліян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянэр на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы. Нараджэнец мяст. Падароск (Ваўкавыскі р-н).

75 гадоў таму (1938) – У Омску расстраляны Аркадзь Смоліч, беларускі нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ, картограф. У ліст.-сьнежн. 1918 па даручэньні ўраду БНР працаваў у Гародні.

55 гадоў таму (1958) – У Рызе памёр Уладзімір Пігулеўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Нараджэнец Гародні.

**21 чэрвеня**

65 гадоў таму (1948) – У Менску нарадзіўся Ян Матусевіч, уніяцкі сьвятар, дэкан Беларускай Грэцка-Каталіцкай царквы. З 1980 па красавік 1990 жыў і працаваў у Барунах.

**22 чэрвеня**

70 гадоў таму (1943) – На Беларусі была ўтворана моладзевая патрыятычная арганізацыя – Саюз Беларускай Моладзі (СБМ, дзеіў у Беларусі да ліпеня 1944).

20 гадоў таму (1993) – У Менску ў фінале Кубку Беларусі па футболе гарадзенскі "Нёман" (галоўны трэнер Станіслаў Уласевіч) перамог рэчыцкі "Ведрыч" – 2:1 і ўпершыню заваяваў трафей.

10 гадоў таму (2003) – У шпіталі ў Бараўлянах (Менскі р-н) памёр Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. З 1947 па 1978 жыў і працаваў у Гародні. Пахаваны ў Менску.

**24 чэрвеня**

150 гадоў таму (1863) – У Лідзе за чытаньне маніфэсту паўстаньня ў в. Ішчална (Шчучынскі р-н) расстраляны ксёндз Адам Фалькоўскі.

**26 чэрвеня**

150 гадоў таму (1863) – Расейскімі карнікамі ў ваколіцах Наваградку па загадзе Міхаіла Мураўёва расстраляны Адам Пуслоўскі (нарадзіўся ў 1842 (?) на Навагрoдчыне), удзельнік вызвольнага паўстаньня. Пахаваны ля в. Сенна (Навагрудзкі р-н).

45 гадоў таму (1968) – Памёр Сьцяпан Войтанка, праваслаўны сьвятар (вучыўся ў Гародні, працаваў у Дварцы і Марозавічах Дзятлаўскага р-ну), дзеяч Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў ЗША.

**27 чэрвеня**

80 гадоў таму (1933) – У в. Мінявічы (Мастоўскі р-н) самагубствам скончыў Міхась Явар (сапр. Карась), беларускі паэт, удзельнік Грамады, ТБШ. Пахаваны ў Навасёлках (Мастоўскі р-н).

***Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыё-станцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце***

**www.racyja.com**

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www. spring96.org**




***На сайце***

**www.palitviazni.info**

***вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі***

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**



***Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:***

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
травень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

